# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 41 (1587) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 12 КАСТРЫЧНІКА 1986 г. ЦАНА 10 зл.




Жыллёвы будынак з другой паловы XIX ст. у Драгічыне. Мал. У. Петрука.

# КАФЕДРА БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ НА ПАРОЗЕ ТРЫЦЦАЦІГОДДЗЯ

Трыццаць гадоў таму назад была створана ў Варшаўскім універсітэце адзіная ў свеце паза межамі Савецкага Саюза Кафедра беларускай філалогіі. Зразумела, што гэты факт быў звязаны пасрэдна з існуючым ужо некалькі месяцаў Беларускім грамадска-культурным таварыствам і „Нівай". Кафедра беларускай філалогіі стала праявай новай палітыкі Народнай Польшчы ў справе нацыянальных меншасцей. Варта аднак сказаць, што стварэнне Кафедры было папярэджана шэрагам ініцыятыў і намаганняў з боку ГП БГКТ.

Практычныя захады, звязаныя з арганізацыяй Кафедры, былі даручаны навуковаму супрацоўніку Варшаўскага універсітэта праф. Антаніне Абрэмбскай-Яблонскай. Яна займалася справай першых кандыдатаў на беларускую філалогію і яна шукала навуковых супрацоўнікаў, якія мелі працаваць у новай навуковай адзінцы. Разам з некалькімі іншымі апынуўся тут і я — выпускнік русістыкі Лодзінскага універсітэта. Сярод першых нашых студэнтаў, а праз пяць гадоў першых выпускнікоў, былі, між іншым, сённяшнія дырэктары беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы Аляксей Карпюк і Аляксандр Іванюк.

Варта прызнацца, што амаль ніхто з першых навуковых супрацоўнікаў Кафедры не быў беларусазнаўцам па адукацыі. Заканчвалі мы іншыя, не беларускія філалогіі і, прыступаючы да працы на Кафедры беларускай філалогіі, мусілі перад гэтым самі многа вучыцца, каб грунтоўна пазнаць беларускую літаратуру і беларускую мову, культуру і гісторыю.

Зразумела, што пакуль што нізкі ўзровень наших беларусазнаўчых ведаў не дазваляў нам браць на ўласныя плечы ўвесь цяжар, звязаны з навучаннем студэнтаў.

І тут прыйшла нам з дапамогай БССР. З Мінска прыехалі да нас на два гады навуковыя супрацоўнікі: дацэнт Акадэміі навук БССР Мікалай Бірыла і дацэнт Дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Васіль Тарасаў. Пасля двух гадоў змяніла іх наступная пара вучоных: дацэнт Акадэміі навук БССР Аркадзій Жураўскі і дацэнт Дзяржаўнага педагагічнага інстытута Міхал

(Працяг на стар. 3)

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

17 верасня 1986 г. адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП, на якім была разгледжана справаздача аб культурна-асветнай дзейнасці ў мінулым сезоне. Супаў ён з юбілеем 30-годдзя БГКТ і „Нівы" і быў намнога багацейшы, чым папярэднія. У юбілейным годзе конкурс „Беларуская песня'86" быў надзвычай вялікім і багатым. Цэнтральны агляд праходзіў у Беластоку два дні і прыняло ў ім удзел звыш 200 спевакоў, якія паказалі высокі мастацкі ўзровень. З нагоды юбілею ў чэрвені наладжана Свята беларускай культуры ў Беластоку. Пасля трохгадовага перапынку рэактываваны агляд гурткоў тэатральнай самадзейнасці. Вялікую папулярнасць у нашым асяроддзі заваёўвае народнае святкаванне Купалля. Апрача спомненых мерапрыемстваў, так як у папярэдніх аглядах, БГКТ арганізавала конкурс для школьнай моладзі, канцэрты мастацкіх калектываў, аўтарскія сустрэчы з „белавежцамі", фэстыны ў вясковым асяроддзі, навагоднія і мясапусныя балі.

Прэзідыум ГП даў высокую ацэнку арганізаваным мерапрыемствам. Мінулы культурна-асветны год выказаў, што наступіла поўнае ажыўленне ў культурнай дзейнасці, а большасць мерапрыемстваў была добра падрыхтавана і праведзена, хаця і не змаглі мы ўсцерагчыся ад недахопаў. У будучыні трэба штораз лепш арганізоўваць культурныя мерапрыемствы, актывізаваць беларускае насельніцтва да супрацоўніцтва, як мага шырэй распаўсюджваць роднае слова і беларускую культуру.

Прэзідыум ГП выказвае шчырую падзяку ўсім дзеячам БГКТ, настаўнікам беларускай мовы, кіраўніцтву школ і асветным уладам, працаўнікам культурных устаноў і членам беларускіх аматарскіх калектываў за ўдзел у культурнай дзейнасці ў нашым асяроддзі.

У далейшым Прэзідыум ГП адобрыў каляндар культурна-асветных мерапрыемстваў на сезон 1986/1987. Рэдакцыя „Нівы" будзе змяшчаць на сваіх старонках матэрыялы, прысвечаныя гадавінам, якія адзначаюцца Таварыствам.

Прэзідыум ГП выслухаў таксама інфармацыю аб выкарыстанні штатаў і зарплатнага фонду ў ГП БГКТ.

В. Луба

# КАФЕДРА БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ НА ПАРОЗЕ ТРЫЦЦАЦІГОДДЗЯ

(Працяг са стар. 1)

Лазарук. Для нас, маладых тады ячшэ навуковых супрацоўнікаў, некалькігадовы кантакт з беларускімі вучонымі меў вельмі істотнае значэнне. Для паглыблення беларусазнаўчых ведаў Міністэрства вышэйшай адукацыі высылала нас на многамесячныя навуковыя стажыроўкі ў Мінск. Вялікае значэнне для дыдактычнага і навуковага працэса нашай Кафедры мелі беларускія кнігі і часопісы, якія мы, пачынаючы ад самага пачатку і заканчваючы сённяшнім днём, атрымоўвалі і атрымоўваем з БССР. Вялікае значэнне для дыдактычнага працэсу нашых студэнтаў мае семестровае навучанне нашых студэнтаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце. Заключаецца яно ў тым, што студэнты нашага трэцяга курса выязджаюць на паўгадовую навуку ў Мінск. Зразумела, што прабыванне іх у Беларускім дзяржаўным універсітэце, магчымасць карыстання з бібліятэк, кантакты з беларусамі адыгрываюць вялікую ролю як у прафесійным, так і ў агульначалавечым аспекце.

Гаворачы аб нашых кантактах са светам, варта падкрэсліць, што маюць яны адкрыты характар у адносінах да Усходу і Захаду. Нашы супрацоўнікі, апрача БССР, пабывалі на славістыках амерыканскіх і англійскіх. Кафедра ўтрымоўвае кантакты з Брытанска-беларускім таварыствам, якое выдае вельмі цікавы беларусазнаўчы часопіс на англійскай мове, і з Беларускай бібліятэкай і музеем Ф. Скарыны ў Лондане, з якой карысталі і нашы навуковыя супрацоўнікі і студэнты. Гэты адкрыты характар Кафедры праявіцца і ў снежні гэтага года, калі будзе праведзена канферэнцыя, звязаная з нашым трыццацігоддзем. На гэту канферэнцыю запрасілі мы шэсць навуковых супрацоўнікаў з БССР і трох славістаў-беларусаведаў з Англіі.

Вяртаючыся да мінулага, хачу сказаць, што спачатку мы набіралі студэнтаў адзін раз у два гады. Ужо дзесяць гадоў набіраем іх кожны год. Галоўным чынам прыходзяць да нас беларусы — выпускнікі беларускіх ліцэяў з Бельска і Гайнаўкі. Аднак не толькі яны, бо ёсць у нас і студэнты з Варшавы, з Лодзі, са Шчэціна і з іншых польскіх гарадоў. У даны момант па-за беларусамі і палякамі вучыцца ў нас адзін украінец і адна літоўка. Разнародныя нашы студэнты таксама ў аспекце рэлігійным. Па-за праваслаўнымі і каталікамі здараліся баптысты, уніяты, вызнаўцы іудзізму і, зразумела, няверуючыя. Пачынаючы ад першага спаткання са студэнтамі, стараемся зашчапіць ім ідэю поўнай талерантнасці і свабоды ў выбары жыццёва-рэлігійнай філасофіі. Дае гэта добрыя вынікі. Наколькі мне вядома, ніколі ў гісторыі Кафедры не было ніводнага праяву канфлікту, які б грунтаваўся на глебе рэлігійнай прыналежнасці.

Студэнты нашы здабываюць двайную спецыялізацыю — беларусазнаўчую і русістычную. У іх дыпломах выступае формула: Magister filologii białoruskiej z dodatkową specjalnością filologia rosyjska.



Злева направа: сакратар партыйнай арганізацыі факультэта русістыкі і прыкладной лінгвістыкі Ежы Ленарчык, студэнты-завочнікі настаўнікі Вольга Гарустовіч з Дубінаў, Вольга Андраюк са школы № 2 у Гайнаўцы, кіраўнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта д-р А. Баршчэўскі, настаўнік Іван Міранюк з Махнатага, настаўніца з Орлі Таццяна Шайкоўская.

Дагэтуль беларускую філалогію закончыла каля 250 асоб. Працуюць яны ў розных галінах культуры нашай краіны. Многія з іх вярнуліся на родну Беласточчыну і працуюць найчасцей у асвеце. Як жа радасна, калі сустракаеш кандыдата на беларускую філалогію, якога ў пачатковай школе або ў ліцэі вучыў наш выпускнік. Сярод нашых выпускнікоў ёсць сёння тры паэты — члены Саюза польскіх пісьменнікаў: Віктар Швед, Міхась Шаховіч і Надзея Артымовіч. Дагэтуль нашы студэнты напісалі каля сямідзесяці магістэрскіх работ, прысвечаных фальклору паасобных беларускіх вёсак і больш дзесяці работ, звязаных з беларускімі дыялектамі ўсходняй Беласточчыны. Такім чынам захавалі назаўсёды ад забыцця тое, што ў многіх выпадках моцна змяняецца або беспаваротна гіне.

Кафедра ініцыюе і інспіруе таксама навуковую дзейнасць. Яе супрацоўнікі з'яўляюцца аўтарамі многіх навуковых публікацый. Актуальна працуюць яны над некалькімі слоўнікамі, сярод якіх істотнае значэнне мае першы ў гісторыі Польшчы „Вялікі беларуска-польскі слоўнік", якім кіруе дэкан факультэта русістыкі і прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага універсітэта, ураджэнец несвіжскай зямлі прафесар Альберт Барташэвіч.

Стоячы на парозе свайго трыццацігоддзя, азіраемся на пройдзены шлях і глядзім наперад. Верым, што Кафедра беларускай філалогіі — праява эмансіпацыйнай палітыкі нашай дзяржавы — і ў далейшых дзесяцігоддзях будзе існаваць і дзейнічаць. Будзе служыць як інтарэсам беларускай нацыянальнай меншасці, так і Народнай Польшчы.

**Аляксандр Баршчэўскі**




### НЕНАЕДНАСЦЬ

На гэты раз Васіль Петручук напісаў дасканалы артыкул, даючы яму загаловак „Без прыроды няма жыцця" (у „Ніве" ад 17 жніўня). Хачу прызнацца, што ён апярэдзіў мяне, бо і я меў намер нешта падобнае напісаць, але Петручук зрабіў гэта куды лепей, і я магу толькі сёе-тое дадаць да напісанага ім.

Святая праўда, што толькі ідыёт перамагае прыроду, знішчае яе. Але ячшэ страшнейшая праўда — такіх ідыётаў у нас ёсць вельмі і вельмі шмат. Гэта наша бяда! Тым большая бяда, што гэтыя тупалобы тыцкаюць у вочы ўсякімі тэхнічнымі і навуковымі званнямі, яны — інжынеры, тэхнікі, магістры, дактары, ды прафесары нават!

У нашай староцы, для прыкладу кажучы, цалкам асушаны лугі ды пракапаны яны столькімі равамі, што і не пералічыць. Капалі іх і там, дзе ніколі не было багонца ці якой лужыны, на высокіх месцах капалі і трэба было наваявацца з тымі гораспецыялістамі, каб хоць бульдозера не прывалакалі туды і не разрылі ўсяго дашчэнту. А ўся тая дурнота была роблена строга паводле плана, зацверджанага мноствам выкрунтастых подпісаў (чым дурнейшы, тым прыгажэй падпісваецца) і рознаколерными пячаткамі. І так нам усенька памеліяравалі, такую навялі суш, што ў калодзежах у вёсцы пачала вада высыхаць, страх падумаць! Настолькі пайшлі ўглыб падземныя воды.

Той, хто недалёка думае, цешыцца, што накосы сена павялічыліся. Жывіны больш трымаць можна. Але колькі часу? — два, пяць гадоў, а потым сена і зусім не будзе, вецер пыл стаўбуном па лугах ганяць будзе. Першыя гады пасля меліярацыі будуць урагжайнымі, але толькі першыя. Вось такая наша бяздумніца. А ячшэ кажуць: няхай высыхаюць тыя калодзежы, ваду будзем мець з водаправода, што будуюць у Дубічах. Будзем мець, а як жа, але ці гэты водаправод напоіць нам палеткі збожжа і лугі? А на іх, на палі нашы, непазбежна насунецца бязводная пустыня. Пабачыце, успомніце маё слова. І птушак не будзе, і звяроў, і лес змарнее. Чалавечая ненаеднасць загубіць усё, дурнота, якая пагналася за багаццем, за грашмі. Пасля нас можа і патоп быць... Будзе не патоп, а пустыня. І хацеў бы я тут быць кепскім прарокам. Баюся вельмі, што, аднак, не памыляюся, сам бачу вынікі такой дзейнасці чалавека нашага і хутка ўсе, найбольш заслепленыя нажываю, убачаць гэта, ды позна будзе.

**Мікалай Панфілюк**

### РЭПЛІКА МОРДАНЮ

Паважаны дыскутанце Яне Мордань! Адказваючы на вашу адгалоску, змешчаную ў „Ніве" ад 7 верасня г.г., хачу сказаць, што вы пацэлілі кулявю ў неба, гаворачы, што я не ведаю рэаліяў самадзейнага тэатральнага руху. Мордань папракае мяне ў прыдуманасці выказвання наконт выступлення тэатральных

(Працяг на стар. 4)

# БЕЛАРУСІКІ


1969

Dzięgbowska Elżbieta: W cieniu ubielskiej topoli. Białoruś ku czci Moniuszki. Korespondencja z ZSRR. Trybuna Ludu 1969 nr 136 s. 3.

Gostyńska Weronika: Materiały archiwalne o tajnych rokowaniach polsko-radzieckich w Baranowiczach i Białowieży (czerwiec — lipiec 1919 r.). Z dziejów stosunków Polsko-Radzieckich t. 4: 1969 s. 150—172.

Mieleszko Wasilij: Polsko-białoruska współpraca kulturalno-naukowa w okresie powojennym. Ref. Tłum. Notatki Płockie 1969 nr 2 s. 29—34.

Porowski Bolesław: Wspólne wzrastanie. (Białorusini w Polsce). Argumenty 1969 nr 37 s. 6—7.

Smułkowa Elżbieta: Lituanizmy w białoruskim słownictwie rolniczym. Lingua Posnaniensis t. 14: 1969 s. 55—69, mapy.

Smułkowa Elżbieta: Leksykalne i słowotwórcze zróżnicowanie białoruskich nazw ścierniska. Slavia Orientalis 1969 nr 1 s. 69—76, mapy.

1970

Aleksandrowicz Stanisław: Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. Fragm. pracy. Acta Baltico-Slavica t. 7: 1970 s. 47—108, tabl., mapa.

Biełaruskaje mowaznaustwa. Biblijahraficzny ukazalnik (1825—1965 hh). Mińsk 1967. Rec.: Kondratiuk Michał, Raudeliunas Vytautas. Acta Baltico-Slavica t. 7: 1970 s. 319 m 323.

(Czatyrysta piaćdziesiat) 450 hod biełaruskaha knihadrukawannia. Mińsk 1968. Rec.: Witkowski Wiesław, Slavia Orientalis 1970 nr 3 s. 318—321.

Deruga Aleksy: Polityka wschodnia Polski wobec ziem Litwy, Białorusi i Ukrainy 1918—1939. Warszawa 1969. Rec. Laval Paweł. Kontrasty 1970 nr 8 s. 34.


P.C.

Пабег да нас, бацькоў распытаў, ці іншага ў мяне няма. Пераначаваў з маім братам у клуні, а праз два дні зноў прыходзіць, у парванай кашулі. Сясцёр і маці з хаты павыганяў, ледзь сваячка іх расцягнула. Пабіў ложак і крэслы. „Я столькі ўсяго перажыў, і ў Германіі быў, і паранены быў, а яны мне не дазваляюць узяць тую, якую люблю. А то бяры багату, кавалёву дачку, то тую, то тую!“. Як засеў у нас, то за тыдзень кончыў хату, падлогі, полапы паклаў, печ зрабіў, і давай мы вяселле рабіць.

Сёстры яго былі старэйшыя. Маці баялася, каб у старых дзеўках не асталіся, калі б Ванька гаспадарку ўзяў у свае рукі. Узяла маці прымака да старэйшай, той апанаваў, праўда, гаспадарку, і Ванька прадаў усё, што яму маці выдзеліла. Можна было б жыць, але як прадаў дрэва на хату, і хлявы, і клуню, не было дзе і каровы трымаць. І павалокся па свеце, ды прапіў усе тыя грошы. А мяне маці і сёстры выганялі, прымак каменнямі гнаў, майго сынка байструком называлі. Цёшча крычала: „Што, як байструка маеш, то нашу гаспадарку думаеш захапіць? Не, так табе не будзе!..“ Мусіла я стуль уступіць. Пайшла да бацькоў. Вярнуўся Ваня. Хацеў жыць у нас. „Найлепш нявучанаму на гаспадарцы“, — кажа. Але дзе там, з яго норавам! „Не дурны я прымаком быць, на коміне хату пабудую, а ў прымы не пайду!“ — маўляў.

Паехалі мы ў Прусы. І там жыцця не было. Рабіць не рабіў, а да баб надта падкі. Пакінула я яго. З дзіцяці таксама толку не было — ад бацькі пераняў характар. Выпіць і выбіць любіў. Так і забілі яго п'яніцысябры на забаве.

Прабавала я даць сабе рады ў жыцці. Старэе чалавек, разумнее. Выйшла замуж за спакойнага, добрага чалавека. Ужо абое мы на пенсіі. Абоіх нас жыццё пачаставала горка, разумеем мы адзін другога добра. Чалавечыя сцежкі заблытаныя, ой, крутыя...

**Міра Лукша**



**Па роднай зямлі. Сабралася бабулька да ўнукаў... Фота М. Гайдука.**

**(Працяг са стар. 4)**




роднай ім, зямлі. Дзяўчаты ахрышчаныя імем Ніна, самі сябе перахрышчваюць на імя Яніна або Яся. Ад такіх асоб, вядома, нічога добрага не можа спадзявацца ні наш чалавек, ані іншы які, бо такая Яніна, здрадзіўшы сабе, здрадзіць, вокам не маргнуўшы, каму толькі хочаш.

Такія людзі з душою здрадніка проста ненавідзяць беларускую мову і ўсё, што яна ім напамінае. Яны ненавідзяць і айчыну сваю родную, бацькаўшчыну. Забараняюць сваім дзецям хадзіць на ўрокі беларускай мовы а калі пачуюць, што іхнае дзіця загаварыла па-беларуску, дык нават б'юць яго за тое моцна, караюць і пільнуюць, каб, крый Божа, не вырасла на свайго чалавека. А без мовы беларускай як жа можна спазнаць культуру нашу беларускую, быць беларусам?

Калі яшчэ я хадзіла ў тутэйшую школу, дык у ёй усе да апошняга дзеці вывучалі беларускую мову. А цяпер — падумаць цяжка, што гэта парабілася з душамі нашых людзей. Адкуль столькі нянавісці да роднага?

**Рыта**




## КАГО ПА КІШЭНІ ШПАРАЦЬ?

Мне ўжо добра вядомая якасць трактараў айчыннага вырабу. Тры гады карыстаюся я „Урсусам, Ц-330“, які, практычна, штораз трэба было аддаваць у рамонт, кожны год. А рамонты тыя, ой, як каштуюць, за адзін такі заплаціў я 26.400 зл. ПОМу заплаціў, вядомая справа. Напісаў я тады на трактарную фабрыку, каб мне звярнулі гэты кошт, і звярнулі, праўда, хоць было ўжо амаль пяць месяцаў пасля гарантыйных тэрмінаў, якія даюць на новыя трактары.

А цяпер новая бяда здарылася. Менавіта, купіў я машыну для раскідання гною, за дзвесце трыццаць сем тысяч злотых купіў яе, выпушчаную на фабрыцы ў Чорнай Беластоцкай. Не танная гэта машына, а карысць ад яе такая, што і гаварыць не хочацца... Зачопка ў трактары не пасуе да гэтай „трасілкі“, больш таго, гэтая частка, так патрэбная, аказалася звычайным кавалкам жалезнага лому, зусім нікудышняй жалезінай, а кошт гэтай часткі палічаны на суму аж дзвюх тысяч злотых. Вось так. Думаю сабе: каго гэта яны па кішэні так шпараць? Ясная справа, што гаспадара!

**Валянцін Семянюк**

## ПРА ЗАБЫТЫХ

У Дубічах Царкоўных нядаўна гралі і спявалі ля помніка людзям, якія пакутавалі і пралівалі сваю кроў у апошнюю вайну. Кветкі клалі пад помнік, успаміналі; былі і прамовы. Але шмат-каго з тых, хто павінен быў быць запрошаны на гэтую ўрачыстасць, не запрасілі чамусьці. Не было там Ніны Рыбак, не было Марыі Жак, і маці маёй, Марыі Пень, таксама не было. А ўсе яны нямала запакутавалі на прымусовых работах у Нямеччыне, былі ў лагерах.

Мікалай Рыбак, якога запрасілі, едучы ў Дубічы на тое свята, сказаў жонцы Ніне: — Папасядзіш, Ніна, адна цэлы дзень, то і кветак тых адхочацца табе... — у знак пашаны давалі запрошаным кветкі, букеты.

А я іншы раз пагляджу на ўсе тыя ордэны, якія атрымала мая маці, і так падумаю сабе: каб не свой кавалак зямлі, то і сёння без хлеба сядзела б яна. Аднаго разу, у іншай ужо справе, зайшла я сварыцца ў Дубіцкую гміну, а яны мне так кажуць: ты на нас у суд падавай! А я ім на тое: няхай вас Бог судзіць!

**М. Пень**

## „ПАДАРОЖЖА-7“

17-18-19 кастрычніка г.г. адбудзецца чарговы студэнцкі рэйд „Падарожжа-7“. Рэйд пачынаецца ў пятніцу, 17 кастрычніка, у 20 гадзін у студэнцкім доме „Бэта“ ў Беластоку, вул. Звежынецкая 12. Прадбачваецца спатканне з рэдакцыяй „Нівы“ і кіраўніцтвам ГП БГКТ. У суботу, 18 кастрычніка, у 11 гадзін выходзім з Беластока ў Трыпуцці, дзе будзе начлег і традыцыйны ўжо даклад па гісторыі. Вяртаемся ў нядзелю, 19 кастрычніка, у Беласток, тут усе ўдзельнікі маюць гарантаваныя ГП БГКТ бясплатныя запрашэнні на канцэрт вядомага калектыву „Дубіны“.

**Запрашаем!** Арганізатары

якіх спроб антыдзяржаўнай дзейнасці сярод праваслаўнага духавенства.

Асноўныя свае сілы наша міліцыя кіравала на барацьбу з...

### ...РАЗБОЙНІКАМІ І ЗЛАДЗЕЯМІ.

І ў гэтай галіне дабілася яна шмат поспехаў. На працягу васьмі месяцаў гэтага года аднатавана амаль на 11 працэнтаў менш рознага роду злачынстваў, чым у гэтым жа часе мінулага года.

Не значыць гэта, што міліцыянеры маглі дазволіць сабе на бяздзейнасць. Кожны дзень рэгістравалі яны ў межах Беластоцкага ваяводства амаль 20 крымінальных вылазак, часамі асабліва небяспечных, з трагічнымі вынікамі. Для прыкладу:

— 15 красавіка Ян І. забіў стаража Музея беластоцкай вёскі ў Юроўцах.

— 6 ліпеня, апоўначы, на вуліцы Антанюкоўскай у Беластоку злачынцы (ужо вядомыя, выяўленыя міліцыяй) найперш пабілі да затраты прытомнасці Адама У., а затым адабралі ў яго амаль мільён злотых.

— 16 жніўня ў белы дзень (а $9^{00}$ гадзіне) злачынцы наведалі плебанію ў вёсцы Асмоля, Дзядковіцкай гміны, ды прымусілі старэнькую маці (85 гадоў) тамашняга ксяндза аддаць ім 120 тысяч злотых.

— 9 і 10 верасня зладзеі абакралі старэйшых людзей у раёне вуліцы Міцкевіча ў Беластоку.

Агульныя затраты ад зладзейскіх і бандыцкіх вылазак на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства на працягу васьмі месяцаў гэтага года міліцыя ацэньвае на звыш 200 мільёнаў злотых, з чаго суды адабралі зладзеям амаль 28 мільёнаў і на 70 мільёнаў забяспечылі рознае дабро дзеля рэкампенсацыі матэрыяльных затрат.

Падпалкоўнік **Ян Пасіх** з задавальненнем адзначыў, што Беласточчына займае даволі высокае, бо аж 17 месца сярод усіх 49 ваяводстваў па бяспецы і грамадскаму парадку. Ён высока ацаніў супрацоўніцтва насельніцтва з міліцыяй. Для прыкладу:

— 4 верасня позна вечарам хтосьці пазваніў у міліцыйны ўчастак у Чорнай Беластоцкай, што зладзеі ўламаліся ў тэкстыльную краму № 13. І гэтая „трынаццатка“ аказалася для зладзеяў сапраўды невязучай. Міліцыя накрыла іх яшчэ „пры рабоце“.

— 9 верасня, дзякуючы паведамленню ад ананімнага інфарматара, былі злоўлены зладзеі, якія абабралі краму з радыётаварамі ў Саколцы. Аказалася, што гэтыя зладзеі маюць ужо на сваім рахунку 7 іншых зладзейскіх узломаў.

Агульна беручы, аж у больш 50 выпадках на працягу гэтых 8 месяцаў грамадзяне дапамагалі міліцыі выявіць злачынцаў.

Падпалкоўнік Ян Пасіх казаў, што міліцыя сваю рэпрэсійную палітыку ўкірункоўвае так, каб „біць па кішэнях“, каб зладзейства і злачынства дзеля нажывы звычайна не аплочвалася, а хутчэй — наадварот, каб станавілася яно прычынай матэрыяльнай руіны злачынцы і яго сям'і.

Міліцыя і служба бяспекі Беластоцкага ваяводства дарма не з'ядае грамадскага хлеба. Яны заслужылі на пашану і падзяку насельніцтва.

**Віктар Рудчык**

 

**УСПАМІНЫ**

# БЕЛАРУСКІЯ ГУРТКІ

На нашых вёсках пры санацыйнай Польшчы дзейнічалі падпольныя беларускія гурткі. Помню, у Бандарах у Міруцін праводзіліся сходы. Хадзілі мы і на мітынгі ў Міхалова, а на 1 Мая — у паход. Паліцыя з раніцы пільнавала на разыходных дарогах, дык ішлі людзі палямі, багнамі і лясамі. Найцяжэй было дастацца да самога Міхалова, а там ужо ў нас была свая міліцыя — з чырвонымі стужкамі на рукавах. Першамайскі паход праходзіў вуліцамі, людзі спявалі рэвалюцыйныя песні. Паліцыя стаяла з карабінамі ў руках і ў шапках з паскам пад барадой. Фабрыканты праз вокны глядзелі на тысячы рабочых і сялян.

Аднойчы арганізавалі флісацкі мітынг (я быў флісакам) у вёсцы Лука. Паліцыя не мела права яго разагнаць, калі там не будзе ніводнага чалавека без прафесіянальнай легітымацыі. Але што зробіш, прыйшлі людзі і без легітымацыяў. Прыйшоў і з Рыбакоў Вінска, найвышэйшы чалавек на ўсёй ваколіцы. Паліцыя ведала, што ён без легітымацыі. І наняла некалькі хуліганаў, каб у той час, калі яны будуць патрабаваць у Вінска легітымацыю, яны пачалі скандал. Так і сталася. Паліцыя і камендант зрабіліся белыя як папера, сталі страляць над нашымі галовамі. Людзі разбегліся.

Да выбараў, помню, былі прадстаўлены спіскі. Фашысцкая была „едынка“, а рабочая, левая — „сюдымка“. „Сюдымак“ на галасаванне не далі, то людзі іх самі друкавалі з пячаткамі, выразанымі з брашуркі. А некаторыя зусім не ішлі галасаваць. Аднойчы я бачу, камендант з паліцыянтамі ідзе ў Рыбакі. Я здагадаўся, што ідзе да падазроных на дапрос. Я заўсёды бег і папярэджваў іх, каб ведалі, што гаварыць. На гэты раз камендант здагадаўся, што я папеледжваю падазроных, і кінуўся да мяне, злавіў за каўнер і сцягнуў паскам некалькі разоў па плячах. Я рвануўся, вырваўся і ўцёк.

У Боўтрыкі прыязджалі хлопцы з беларускіх гурткоў з Белявіч, Страшава, Вейкаў і другіх вёсак. Гралі, спявалі рэвалюцыйныя песні. З вёскі Салаўі каля Кухмоў быў дзеяч Сяргей Кузьміцкі, які зрабіў нават у сябе карусель, каб гэтакім чынам збіраць моладзь і арганізаваць яе. Нібы сходзіліся людзі на гульні, на карусель. Сяргей загінуў у партызанцы.

Падпольны гурток у вёсцы Нязбодзічы я пазнаў, калі жаніўся і браў адтуль жонку. На вяселлі мяне як маладога пагукалі і сказалі: ахвяраваныя вам грошы пойдуць на арганізацыю, а не на гарэлку.

У тыя часы ў вёсках паліцыя мела нанятых сышчыкаў, якія выдавалі падпольшчыкаў. Мой сусед і сябра Уладзімір Хлябіч, сын Гаўрыла, быў членам падпольнай арганізацыі. Аднойчы да яго прыехала яўрэйка з Вільні па палітычных справах. Здарэцца, ніхто яе і не бачыў. Яна начавала, схаваная ў клуні. Раніцаю прыехала паліцыя, але нічога не знайшлі і не даведаліся.

Сакратаром нязбодзіцкай падпольнай арганізацыі быў Васіль Сахарчук. Яго аднойчы паліцыя на пастарунку ў Ялоўцы так збіла, што тры кіламетры да Нязбодзіч ён поўз ракам цэлы дзень. А ўсё роўна застаўся сакратаром. Пасля яго засудзілі на тры гады турмы. Сядзеў у Вільні. Пры Саветах быў сакратаром сельсавета ў Ялоўцы. Пры акупацыі хтосьці выдаў членаў гуртка. Сакратар Сахарчук, вярнуўшыся з хрысціц, не паспеў разуцца і так немцы схапілі яго з адной босай нагой і расстралялі, а разам з ім яшчэ 42 чалавек. Удалося ўцячы толькі аднаму савецкаму байцу.

Фармальна я не быў членам ніякай арганізацыі. Калі я жаніўся, мне ў Нязбодзічах прапанавалі ўступіць у іхнюю падпольную арганізацыю, але я адкладаў гэта. Нязбодзічы ад нас якіх 16 кіламетраў. Я пабойваўся тамашняй паліцыі, якая ведала, што мае браты ў Савецкім Саюзе камуністамі, што ў рэвалюцыю ваявалі з белагвардзейцамі. Старэйшы мой брат быў камандзірам.

Пры санацыі ўсе прагрэсіўныя людзі — беларусы-праваслаўныя, беларусы-каталікі і палякі — усе разам змагаліся за сацыялізм. Некаторыя цярпелі здзекі і сядзелі ў турмах, таксама ў славутай Картуз-Бярозе.

**Хведар Хлябіч**




# ПРАЎДА І ХЛУСНЯ

Бывае так:
кахаюцца,
жывуць шчасліва,
быццам у раі —
на Зямлі,
і вось раскажа хтосьці
аб адным з іх праўду,
як кажуць: чыстае вады.
І рай у пекла ім змяніўся,
і шчасце недзе ўцякло,
іх раздзяліла праўда тая,
што была чыстае вады.
Бывае так,
што страшна і сказаць —
нас праўдай часта прадавалі
на мукі, у палон, на смерць,
праз праўду білі, катавалі.
Хай буду супраць божага
закону,
што праўду паніжаю,
але ж пазнаў на гэтым свеце,
што розныя яна аблічы мае.
І славіць буду хлусню тую,
якая збавіла народ,
і тых, хто пад пагрозай смерці,
хлусіў, як кажуць,
быццам з нот!

**Р. Бутайла**

# ЖЫВІ СПАКОЙНА!

*Сыну свайму прысвячаю*

Сынку мой маленькі,
Такі прыгожы, дарагі.
Цябе ўсё цешыць,
Не знаеш ніякай бяды.

Табе амаль два гады,
Шчаслівае дзяцінства:
Мірнае неба над галавой,
Цёплы і светлы дом.

Людзі змагаюцца за мір —
Ты нічога не ведаеш.
Я мару аб шчасці тваім —
Жыві, сынку, спакойна!

**Аўрора**

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

**Dotyczy: notatki prasowej z „Niwy“ z dnia 20 lipca br. pt. „Gdzie podziały się łańcuchy?“**

**Odpowiadając w sprawie zaopatrzenia sklepów na terenie województwa białostockiego w części zamienne — łańcuchy WZSR „SCH“ ZOAPIS Białystok** uprzejmie informuje, że nie prowadzimy sprzedaży części zamiennych do motocykli i motorowerów. Dystrybutorem tych części jest Przedsiębiorstwo Państwowe „Polmozbyt“. Odnośnie łańcuchów rowerowych zapotrzebowaliśmy na 1985 r. — 4.000 szt. i nie otrżymaliśmy przydziału, na 1986 rok zamówiliśmy 1000 szt. — otrzymaliśmy przydział na II-gie półrocze 86 — 1000 szt. import z Chin.

W związku z powyższym na przestrzeni okresu 1985 — I-sze półrocze 1986 wystąpił brak w sprzedaży łańcuchów rowerowych z przyczyn od nas niezależnych.

Jeżeli przydział na II-gie plr. 86 zostanie zrealizowany, otrzymana ilość łańcuchów zostanie rozdzielona na teren n/województwa wskaźnikiem procentowym w/g udziału ludności. Nadmieniamy, że na 1987 rok zamówiliśmy w/w łańcuchów 3600 sztuk i, jeżeli nasze zamówienia zostaną uwzględnione, potrzeby ludności wsi n/województwa powinny być zaspokojone.

**З ПАЕЗДКІ Ў БССР**

# СУХІ ЗАКОН

Мне трэба было як мага хутчэй дабрацца на вуліцу Петруся Броўкі, дзе чакалі мяне віцебскія героі маіх нарысаў. Таксі імчалася па шырокай магістралі горада. Ад самай Прывакзальнай плошчы я ўважліва прыглядаўся да ўсяго, што траплялася па дарозе.

За мною была непраспаная ноч, праведзеная ў цягніках і на вакзалах, ды вочы пяклі ад стомы. Я аднак не адрываў зроку ад вокан таксі. І раптам бачу, што ля нейкага магазіна, на другім баку незвычайна шырокай вуліцы, сабраўся шматлюдны натоўп.

— Бачыце, яшчэ і васьмі няма, а ўжо стаяць, чакаюць, ужо іх мучыць, — адазваўся таксіст, загнуўшы пацііху салёным матам.

— Чаму? — шчыра выявіў я сваё здзіўленне, бо папярэднім разам, чатыры гады таму назад у час маёй пабыўкі ў Беларусі, мне не даводзілася наглядаць тут чагосьці такога.

— „Сухі закон“, — коратка адказаў таксіст. Аб ажыццяўленні гэтага „сухога закону“ я чуў ужо і дома. Тут, аднак, я пераканаўся, што гэта справа вельмі сур'ёзная. Яна з'яўляецца адным са звенняў усебаковай перабудовы ўсіх галін жыцця, працы і адпачынку грамадзян Савецкага Саюза. Напрамкі гэтай перабудовы вызначыў у асноўным XXVII З'езд КПСС, гаварыў аб іх генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў у час сваіх сустрэч з працоўнымі. Нельга стварацы новае старымі метадамі. Нельга тады здзяйсняць аграмадныя пераўтварэнні без выкаранення адмоўных звычак, якія прыніжаюць годнасць чалавека.

— Значыць, строга зараз у вас адносна „сухога закону“? — паспрабаваў я пацягнуць за язык майго спадарожніка.

— Як бачыце, — паказаў ён рукой за сябе, дзе ўздоўж тратуару таўпілася даўжэзная чарга. — Спіртныя напіткі, — прадаўжаў таксіст, — прадаюць зараз у абмежаванай колькасці магазінаў, толькі на працягу трох гадзін часу, пачаўшы з другой гадзіны пасля абеду толькі па дзве бутэлькі на аднаго пакупніка. Ад гэтага і чэргі.

— Дык такое становішча неадкладна выкліча спробы спекуляцыі, — заўважыў я.

— Гэта непазбежна, — згадзіўся таксіст. — Але ці апломіцыя? Органы грамадзянскага парадку ніякай літасці да спекулянтаў спіртнымі напіткамі не праяўляюць. Пагражае ім найменш сто рублёў штрафу і два гады трудавога лагеру.

На другі дзень, калі я завітаў у рэдакцыю „Віцебскага рабочага“, мяне запрасілі на журналісцкі семінар, прысвечаны тэме: **„Арганізацыя свабоднага часу і антыалкагольная прапаганда“**. Сабраліся журналісты з цэлай Віцебшчыны, з усіх раённых газет і завадскіх шматтыражак. З дакладамі выступалі прадстаўнікі гарадскіх і абласных улад, ды розных арганізацый, між іншым, ад **Усесаюзнага таварыства цвярозасці**, якое выдае свой часопіс (750 тысяч тыражу) *„Трезвость і культура“*. На Віцебшчыне мае яно сваіх 2750 пярвічных арганізацый, якія аб'ядноўваюць 58 тысяч чалавек. Членамі Усесаюзнага таварыства цвярозасці з'яўляюцца таксама і цэлыя калектывы фабрык ды прадпрыемстваў, для прыкладу, Аб'яднанне „Даламіт“, дзе мне таксама давялося пабываць. У гэтым аб'яднанні дзейнічае „Клуб цвярозасці“. У час вечароў, наладжаных гэтым клубам, публічна і бесцырымонна, на канкрэтных прыкладах, кляймяць па прозвішчу паклоннікаў „сівухі“. Ды не толькі іх, але саўдзельнікаў „пачастунку“, якія сваёй нейтральнай „дабратой“ спрыяюць безназнаму



 

## ДАЖЫНКАВЫ ВЯНОК ВОЛЬГІ КАЗЛОЎСКАЙ



У час ваяводскіх дажынак, якія былі наладжаны ў Беластоку 14 верасня, зацікавіў нас сваёй арыгінальнасцю вянок ад гуртка вясковых гаспадынь у вёсцы Міклашы, што ў Арлянскай гміне. Аказваецца, што выканала яго Вольга Казлоўская, якую таксама давялося мне сустрэць на гэтых дажынкавых урачыстасцях. Яна — народная мастачка. Патрапіць вычараваць з саломы розныя цацкі незвычайнай прыгажосці. Яе дажынкавы вянок не толькі ўвасабляе плады разнароднай і цяжкай сялянскай працы, але яшчэ паказвае сялянку і селяніна ў народных уборах, фігуры якіх умела ўфармаваны са збожжа і іншых пладоў зямлі-карміцелькі, нават відаць, як пот па тварах сплывае ў запрацаванага мужыка. Яго ўвасабляюць сцяблінкі саломы.

Дзіўна, што гэты вянок не знайшоў прызнання ў конкурснай камісіі, якая ацэньвала дажынкавыя вянкі, прывезеныя ў Беласток з розных куткоў Беласточчыны.

**В. Рудчык**

Фота аўтара

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Odpowiadając na interwencję w sprawie nieregularnych dostaw gazu dla gmin Szudziałowo i Krynki — Wydział Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku informuje, iż pismem GKM.VI.807/57/86 z dnia 12.05.1986 r. Przedsiębiorstwo Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej w Sokółce zostało poinformowane, że kombatanci i inwalidzi I grupy winni być zaopatrywani w gaz na równi z odbiorcami w budownictwie wielorodzinnym, gdzie brak jest trzonów kuchennych.

Po wnikliwym zbadaniu sprawy, zasygnalizowanej przez Redakcję, informujemy, że Przedsiębiorstwo Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej w Sokółce zaopatruje kombatantów w gaz na równi z odbiorcami nie posiadającymi trzonów kuchennych. Przedsiębiorstwo to zaopatruje w ten gaz 8.483 odbiorców, w tym 3.949 to odbiorcy, nie posiadający w swych mieszkaniach trzonów kuchennych, i inwalidzi. W okresie I półrocza Przedsiębiorstwo otrzymało 181,8 ton gazu płynnego, czyli wypadło na jednego odbiorcę beztrzonowego średnio po 46 kg gazu, t.j. po 7,7 kg w miesiącu. Z tego wyliczenia wynika, że chcąc zapewnić każdemu odbiorcy beztrzonowemu gaz, czas użytkowania butli z tym gazem musi wynosić sześć tygodni.

Mogły zdarzyć się przypadki, że z uwagi na brak gazu kombatanci musieli wyczekiwać na dostawę butli z gazem trochę dłużej, lecz dotyczyło to tych odbiorców, którzy posiadają trzony kuchenne w swych mieszkaniach lub mieszkają razem z rodzinami, czyli gaz w ich sytuacji nie jest jedynym źródłem energii cieplnej w trakcie przygotowywania posiłków. Zgodnie z wytycznymi Ministerstwa, z uwagi na utrzymujący się deficyt gazu płynnego i kształtującą się sytuację w dostawach tegoż gazu z przemysłu rafineryjno-petrochemicznego, gaz ten w pierwszej kolejności należy dostarczać tym odbiorcom, u których stanowi on podstawowe źródło energii potrzebnej dla przygotowania posiłków codziennych, t.j. do budynków wielorodzinnych, które nie są wyposażone w trzony kuchenne do spalania węgla lub innego opału.

Przedsiębiorstwu w Sokółce zwrócono uwagę na to, aby przy przyjmowaniu zgłoszeń na wymianę butli gazowych brano pod uwagę w sposób szczególny również kombatantów i inwalidów I grupy, a także warunki ich zamieszkania, i aby osoby chore, mieszkające samotnie, otrzymywały ów gaz w pierwszej kolejności.

Zastępca Dyrektora Wydziału
**inż. Jan Kucharczyk**

## НУДНАЕ ВІДАВА

Не люблю вёсак, якія блізка горада. Гэта ўжо ні вёска, ні горад. Страцілі яны свой каларыт, настрой. Жывуць яны, як бы дрэмлючы, абы дзень да вечара. У іх проста нудна, нецікава быць. Гавораць людзі, што вёску Відава можна назваць адным вялізным спальным пакоем, спальняю Бельска. Відаўчане фактычна жывуць у Бельску, а ў сваё Відава з'язджаюцца толькі нанач, пераначаваць; у Бельску яны працуюць, робяць пакупкі, нават бавяцца там. У Відаве прапала грамадства, кожны жыве сабе і сваім, пра аніякія грамадскія пачыны і гутаркі тут быць не можа.

Калісьці ў Відаве не так было. Быў у ім нейкі рух, людзі цікавіліся сваім, займаліся культурнай дзейнасцю, пакуль не падпалі яны пад цяперашні працэс гарадызацыі, пераўтварэння блізкіх вёсак у якіясьці далёкія кварталы горада. Гарадызацыя знішчае вясковую субстанцыю, знішчае яе іншасць, таясамасць — індывідуальнасць, іначай кажучы.

Солтысам Відава з'яўляецца ўжо трэцюю кадэнцыю Аляксандр Сцяпанаў. Гэта вельмі энергічны чалавек, але цяпер і ён бяссільны ў сэнсе грамадскага жыцця мясцовасці. Мясцовы клуб „Руху" восем гадоў добра вяла Аня Барысюк, але цяпер яна працуе ўжо ў тым жа Бельску, дзе дастае большыя грошы. А. Сцяпанаў гэта рэдкі тып чалавека, які не мог жыць без нейкай справы на карысць усяе вёскі. А цяпер?

Клуб „Руху" пустуе. А калісьці ў ім і канцэрты адбываліся, і тэатр прыязджаў, і нямала іншых цікавых імпрэзаў арганізоўвалі відаўчане і Аня Барысюк. Проста няма каму замяніць яе, няма ахвотных на яе месца. Яшчэ толькі солтыс жыве сваімі ідэямі, каб што зрабіць на карысць усіх землякоў сваіх (нядаўна пабудавана кальцо МПК, і будзе тут акуратны прыпынак гарадской камунікацыі (бельскай, вядома). Ён нават тэлевізар уключае людзям у клубе, калі прыходзяць паглядзець праграму. А сам клуб — нішто сабе будынак, і мэбля ў ім неблагая, столікі, крэслы, і ўсё іншае патрэбнае ёсць. Няма толькі душы, няма чалавека, які ажывіў бы гэты клуб так, як некалі рабіла гэта Аня Барысюк. Няма дзе купіць тут газету ці хаця б білет на той жа аўтобус, бо звычайна такія білеты прадаюць у кіёсках. Чаму бельскі „Рух" не адчыніць у Відаве хоць кіёск які?

Заспанаму Відаву патрэбна іскра для ахвоты жыць цікавей, больш жыва, а не толькі работаю і пакупкамі ў Бельску. Можа хоць гэтыя мае словы прымусяць каго з відаўчан задумацца над шэрасцю свайго быту і над тым, што зрабіць, каб гэтае жыццё не было такое нуднае, усё абы дзень да вечара.

**Андрэй Гаўрылюк**

п'янству. Бачыў я адно з выданняў сценгазеты, дзе па прозвішчах былі пералічаны гэтыя рабочыя камбіната „Даламіт", якія спрабавалі наладзіць выпіўку ў час працы або пасля выпіўкі дома не з'явіліся на работу. Пакаранні за прагул у некаторых выпадках перавышалі нават і **чатырыста** рублёў, што ў пераліку на залатоўкі раўняецца больш-менш 40 тысячам злотых. Пакаранні адносіліся таксама і да кіраўнікоў гэтых аматараў выпіўкі, за рабочы недагляд.

Усесаюзнае таварыства цвярозасці актыўна ўключаецца таксама ў наладжванне **„Зон цвярозасці"**. Проста жыхары нейкага пасёлка, вёскі, саўгаса ці калгаса згодна прымаюць рашэнні, што на іхняй тэрыторыі не можа быць ані кроплі алкаголю. Семінар, аб якім ідзе гаворка, праходзіў 3 ліпеня 1986 года. Да гэтага часу на Віцебшчыне існавала ўжо 90 „зон цвярозасці". У калгасе „Рассвет" Аршанскага раёна, для прыкладу, рашылі правесці „Месячнік цвярозасці". Ад 20 чэрвеня да 21 ліпеня не прадаваць і не дазваляць, каб ужывалі спіртное. 5 чэрвеня Калачынскі сельсавет наладзіў безалкагольнае вяселле, якое было заснята на кінаплёнку, каб іншыя бацькі маладажонаў змаглі ўзяць з іх прыклад. Запрапанавалі і мне пабываць на безалкагольным вяселлі, наладжаным 12 ліпеня. На жаль, не давялося мне на ім пабываць. Што іншае загадзя было ўжо запланавана на гэты дзень. Але рух па выкараненню алкагольнай атруты з сямейных і бытавых абрадаў зараз у Савецкім Саюзе распаўсюджваецца.

У час гэтага ж семінару гаварылася аб патрэбе ўзбагачэння сцэнарыя безалкагольных вяселляў, хрысцін і памінкаў. Гаварылася таксама аб актывізацыі культурнага руху. Каб замест бутэлькі прапанаваць насельніцтву захапленне чымсьці прыгожым, каб людзі, замест у піўную ці рэстаран, ішлі ў клуб ці тэатр. Між іншым, ідзе зараз змаганне за тое, каб у Віцебску абсталяваўся пастаянны цырк, які існаваў тут у даваенны час.

На Віцебшчыне існуе зараз нейкіх 8 тысяч гурткоў мастацкай самадзейнасці, у якіх займаецца 150 тысяч чалавек. Некаторыя мастацкія калектывы, як, для прыкладу, віцебская „Маладосць", вядомыя нават і за мяжой. Выступаў гэты калектыў у Польшчы і ГДР.

Кладзецца таксама націск на пабудову і сучаснае абсталяванне дамоў культуры. На працягу мінулай пяцігодкі у Віцебскай вобласці пабудавалі тры новыя Дамы культуры і 21 клуб. Але аж 340 будынкаў для культурнага правядзення часу трэба неадкладна адрамантаваць і пераабсталяваць. Гэта задача на бягучую пяцігодку.

Значыць, барацьба з п'янствам не зводзіцца толькі да абмежаванага доступу да спіртных напіткаў. Яна ахоплівае ўсе галіны чалавечага жыцця. Так і трэба разумець комплекснае змаганне, якое народ у сваёй мудрасці назваў ужо „сухім законам".

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 2)

## АБ НІГІЛІЗМЕ

зводзіцца да тэзіса: польская нацыя — найлепшая ў свеце, а польская дзяржава — найгоршая ў свеце. Яны ганарацца фактам прыналежнасці да польскага народу і саромеюцца прыналежнасці да польскай народнай дзяржавы. У гэтым і праяўляецца іх безразумны нігілізм.

Думаю часта аб гэтай справе і прыходжу да адназначнага вываду: чалавек, які асуджае сваю дзяржаву і бяспамятна захапляецца чужымі дзяржавамі, можа быць толькі асуджаны чужаземцамі. Варта было б, каб нашы мяшчане аб гэтым крыху падумалі і пачалі аб сваёй дзяржаве не толькі гаварыць лепш, але і лепш для яе працаваць.

**Алесь Барскі**

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

## ПЕРАПІВАННЕ

Абрад перапівання праводзіўся болей-меней праз гадзіну пасля пачатку вясельнай бясе́ды, хаця ў розных вёсках у гэтай справе маглі быць пэўныя адступленні. Аднак адна гадзіна была дастатковым перыядам для таго, каб наесціся і падвыпіць. Цырымонія перапівання пачыналася ад нясення ў галоўны вясельны пакой караваю. У большасці вёсак каравай уносіў маршалак. Рабіў гэта выключна пататычна, высока трымаў каравай над галавою, ішоў прытанцоўваючы і прытупваючы. Затрымліваўся што хвіліну, паказваў каравай усім гасцям і запарожнікам. У канцы канцоў затрымліваўся каля галоўнага стала і ставіў каравай перад маладымі.

У некаторых мясцовасцях каравай уносіла ў пакой галоўная яго стваральніца — старшая каравайніца.

На Сямяціччыне існаваў цікавы звычай абкладання каравая каласкамі жыта і пшаніцы. Калі маршалак ставіў каравай перад маладымі, падыходзілі да яго жанчыны і дзяўчаты і „палолі каравай", гэта значыць, кожная з іх брала для сябе адзін каласок, пасля яго несла дахаты на шчасце. Найчасцей такі каласок перахоўвалі за абразамі. Здаралася аднак, што такія каласы кідалі на вясельных гасцей і на запарожнікаў. Кожны стараўся злапаць такі колас і захаваць яго, як талісман удачы.

Пасля гэтага маршалак абламаў або абрэзваў з каравая ўсялякія ўпрыгожанні. Былі гэта, як правіла, птушкі, рыбкі, кветачкі. Усе гэтыя аздобы называліся „гускамі". „Гускі" маршалак кідаў на гасцей і на запарожнікаў, якія аднак у далейшым былі да яго настроены нядобразычліва. Гэта „апазіцыйнасць" праяўлялася і ў іранічных заўвагах і ў песнях тыпу:

Маршалак каравай крае,  
Па кусочку дае,  
А большы кавалкі  
У кішэнь хавае.

* * *

Маршалак каравай рэжа,  
Яму з носа лезе;  
Дайце, дайце дзеркача  
Яму сцерці смаркача.

Уладзімір Міруць, жыхар вёскі Бяндзюга, які многа разоў у жыцці бываў маршалкам, такім чынам характарызуе момант унясення каравая: „А як жа, брацішку, кільканаццаць разоў я займаўся гэтым дзелам. Не раз прышлося мне быць гэтым маршалком, то яно, відомо, і каравай прыходзілася ўносіць. Найлепш было яго ўносіць тады, калі людзі ужэ перабілі першы голад і падвыпілі. Пры цверозых гасцях перапіванне ніколі, брацішку, не рабі, бо цверозы много маладым не падарыт. Толькі тады, калі падап'е, наберэцца рызыкі і хочэ адзін перад другім пахваліцца. Тады даст больш. Часто навет даст больш, чым думаў даць. Ні адзін после, выцверазеўшы, шкадаваў, што даў замного, але ужэ было позно. То значыт так: я ішоў у камору з старшаю каравайніцаю, браў на веку ад дзежкі каравай, высоко паднімаў яго над галавою і, памаленьку прытанцоўваючы, ішоў у той пакой, дзе сідзелі маладые. Знаеш, брацішку, быў гэто трывожны мамент. Бывало, навет под тобою ногі задрыжат, бо баішся, каб каравая не выпусціць. Я калісь, брацішку, будучы хлапчуком яшчэ, бачыў, як п'яны маршалок нёс каравай, зачапіўся за парог і бабахнуў на падлогу і каравай разбіў у дрэбезгі. У мяне такого не было ніколі, заўшэ данёс так як трэба. Ну а ужэ после абломіш „гускі", пакідаеш іх на гасцей і запарожнікаў, якія, як сабакі, усё брахалі. Нарэзаў каравая на кускі і пачыналасё тое перапіванне, гэта значыт дарэнне маладых. О, брацішку, пры гэтым то трэба было нагаварыцца, каб ад людзей як найбольш для маладых выцягнуць".

**А. Баршчэўскі**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, я да цябе ў нетыповай справе. Я вучуся ў апошнім класе ліцэя, а ў нашым класе ёсць адна дзяўчына. Яна мне вельмі шмат расказвала пра свае розныя любоўныя гісторыі. Былі яны нават крыху неверагодныя, але расказвала яна іх так пераканаўча, што я ёй верыла. У апошні час яна мне расказала, напрыклад, што пазнаёмілася з нейкім мараком, афіцэрам. Сказала таксама, што ён запрасіў яе ў нейкі рэстаран, выдаў на яе мноства грошай, стол гнуўся ад яды і пітва, а пасля, вядома, пайшлі яны да яго ў гатэль. Гэты марак, гаварыла яна, не толькі прыгожы, як лялька, і прыстойны, але і вельмі багаты, а да такой ступені, што хустачкі і шкарпэткі выкідае пасля аднаразовага выкарыстання. Я слухала, як той дурань, разявіўшы рот, і зайздросціла ёй.

І вось праз нейкі час у нейкай размове я сказала другой сяброўцы, што ў тае першай ёсць нейкі марак, вельмі багаты, прыстойны і г.д. і т.п. А тая другая мая сяброўка як не пачне рагатаць ды кажа мне: „То ты не ведаеш, што Ганка (тая першая дзяўчына) чытае шмат кніжак, а пасля ходзіць і расказвае ўсім пра герояў гэтых кніжак, робячы іх у думках сваімі любоўнікамі?.. Я кажу, што не ведала, а яна са здзіўленнем: „Усе навокал ведаюць, а ты не ведала?" І мне стала вельмі прыкра, што Ганка мяне ашуквала, а я паддалася ёй да такой ступені, што нават пазайздросціла ёй. Праўда, здзівілася крыху, што дзяўчына з такім прыпічатным тварам мае такі поспех у прыгажуноў, але ж калі чалавек гаворыць, то трэба яму верыць.

Але вось так хаджу я да сёння і думаю: навошта ёй гэта было патрэбна?! Навокал столькі цудоўных хлопцаў, а яна мела б хваліцца кніжнымі героямі? Што ёй гэта дасць? Мо асабістае задавальненне, сатысфакцыю? Растлумач мне, Сэрцайка, бо сама ніяк не магу зразумець сваёй сяброўкі. **Кацярына**

Кацярына! Тваёй сяброўцы трэба толькі спачуваць, а не зайздросціць. Бедная яна не толькі з прычыны прышчатага твару, але і бедная духоўна, калі не здабылася на тое, каб знайсці сабе хлопца па душы, сапраўднага, жывога, а не ўяўнага, з кніжак. На жаль, такія тыпы здараюцца даволі часта. У мяне, напрыклад, была калісь сяброўка, якая крыху вучылася музыцы. Але не надта ў яе гэта выходзіла. Яна ахвотна запрашала аднак да сябе дзяўчат, якія цудоўна ігралі, і прасіла, каб яны ігралі, а асабліва тады, калі былі дома суседзі, а на двары было поўна яе іншых сябровак. Яна адчыняла шырока вокны, тыя музыкальныя сяброўкі ігралі, а гаспадыня хавалася за фіранкай, спаглядаючы далікатна на рэакцыю тых, што былі за вокнамі і слухалі. Слабая гэта сатысфакцыя. Яна, як мыльны пузыр — нетрывалая і хвілінная. А яшчэ другая мая сяброўка, пад'язджаючы з сябрам самаходам, у той час, калі ён ішоў кудысь па справункі, сядала на яго месца за рулём. Паднімала высока галаву і разглядалася навокал, ці не ўбачыць яе хтосьці знаёмы. Не перапкаджала ёй тое, што руля яна ў руках ніколі не трымала.

Такіх людзей можна трактаваць дваяка: можна адвярнуцца ад іх, парваць з імі ўсялякія кантакты, бо яны па сутнасці людзі пустыя і малыя. Ад гэтых людзей нічаму добраму ў жыцці не навучышся. Можна, аднак, і прайсці міма гэтага, не звяртаючы асаблівай увагі на такія паводзіны. Хоць гэта слабыя людзі, то часам у дружбе патрэбны і нехта слабейшы, які быў бы аднак адданы і паслухмяны.

**Сэрцайка**

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

## БУЛЬБА, ФАРШЫРАВАНАЯ ПЯЧОНКАЙ

На 8-9 бульбін патрэбна адна шклянка смятаннага соусу з цыбуляй і зелянінай ды соль.

На фарш: 200 г пячонкі, 40 г саланіны, 1 цыбуліна, соль.

Бульбу, звараную ў лупінах, абабраць і выразаць сярэдзіну. Пячонку парэзаць малымі кавалачкамі і падсмажыць з нарэзанай цыбуляй і саланінай. Пасаліць і атрыманым фаршам начыніць бульбу. Пасля гэтага ўсё заліць смятанным соусам з цыбуляй і тушыць на малым агні. Перад падачай пасыпаць дробна нарэзанай зялёнай пятрушкай ці ўкропам.

## БУЛЬБЯНЫЯ КРАКЕТЫ З МЯСАМ

На 12 бульбін трэба ўзяць 2 яйкі, 4 сталовыя лыжкі шмальцу, 3 чайныя лыжачкі мукі, 3 сталовыя лыжкі цёртай булкі, 4,5 лыжак смятаны, соль.

Сцертую сырую бульбу выціснуць, дадаць адно яйка і соль ды ўсё перамяшаць. З бульбяной масы рабіць невялікія шарыкі, напаўняць іх мясным фаршам, паніраваць у муцэ, яйку і цёртай булцы і падсмажваць. Кракеты палажыць у каструлю, паліць растопленым маслам і тушыць. Перад падачай паліць смятанай.

## БУЛЬБЯНЫЯ ЗРАЗЫ

На 13 бульбін трэба ўзяць 300 г ялавічыны, 120 г саланіны, 2 цыбуліны, соль. Палову бульбы абабраць і сцерці. Другую палову зварыць у лупінах, абабраць і прапусціць праз мясарубку, пасля чаго змяшаць са сцертай бульбай і пасаліць. З масы рабіць на руцэ аладкі. Класці на гэтыя аладкі фарш і загортваць так, каб атрымаліся клёцкі авальнай формы. Зразы абсмажваем з абодвух бакоў на шмальцы.

Фарш робім наступным чынам. Ялавічыну варым, прапускаем праз мясарубку, перамешваем з падсмажанай цыбуляй і солім.

**Гаспадыня**

# СОННІК

41

**Зараза** — цяжкія часы.  
**Заробак** — добрая будучыня, неспадзяванае шчасце.  
**Заручыны** — хуткае здзяйсненне зычанняў.  
**Зарэзаць** — сямейная гасціна.  
**Засада** — удача ў інтарэсах, справах, гаспадарцы.  
**Засаўка** — сорам.  
**Засеў** — надзея на добры заробак, даход.  
**Заслонка** — раскрыццё (здрада) таямніцы.  
**Засмучанне** — клопаты, а потым наступіць вясёласць, радасць.  
**Заспакойваць смагу** — чыстая радасць, дбанне пра справы іншых.  
**Застрэліць** — цябе праследуюць зайздросныя.  
**Засуха** — працяглая сонечная пагода.  
**Засыпаны** — табе пагражае небяспека.  
**Затока** — шчаслівая старасць.  
**Затычка** — класці яе каму-небудзь у вусны — ворагі; табе заткнулі ёю вусны — удача наперакор перашкодам.  
**Захад сонца** — шчаслівая старасць.  
**Захварэць** — нешчаслівае каханне.  
**Зацьменне месяца** — нявернасць, здрада; сонца — праменаючыя пакуты.  
**Зачараваць** — не ведаеш самога (ую) сябе.  
**Зашпільваць** — сямейная ўрачыстасць.  
**Заяц** — страляць — шчасце; бачыць — выйграш у латарэі; есці — сварка з сябрамі.  
**Збан** — шчасце, пазбежыш небяспекі; разбіць — спрэчка або добрая звестка.  
**Збіраць** — цябе чакае ўзнагарода.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Васіль Хомчанка

# СУСТРЭЧА З ЦУДАМ

Гэта была звычайная паездка ў лес, але яна так уразіла Віцю, так шырока расчыніла перад ім свет, што яму здалося, быццам ён пасталеў адразу на некалькі год.

У суботу вечарам Віця прыйшоў дадому са двара злосным і няшчасным чалавекам. Нагрубіў маці, ударыў нагой кошку, спіхнуў са стала сваю пажарную машыну, і ў ёй пагнуўся радыятар.

— Што з табою? — спытала маці.

— Нічога.

Няшчасце Віцева было ў тым, што Пеця, рыжы Пеця, з якім яны з малых год жылі ў адным доме і кожны дзень па некалькі разоў званілі адзін аднаму па тэлефоне, гэты самы Пеця не даў яму першаму запусціць змея. Змей зрабіў старэйшы Пецеў брат. Пеця запусціў яго сам, прабег з ім па двары, потым аддаў нітку Васю, потым Юльцы, потым Додзіку. А Додзік жа толькі заўчора пераехаў у іхні дом. Тады пакрыўджаны Віця вырваў у Додзіка нітку і апусціў яе. Змей чмякнуўся вобземлю. На Віцю наляцелі Пеця, Вася, Юлька, адзін даў кухталя ў спіну, другі — у бок. Юлька дзвюма рукамі штурхнула ў грудзі. Вядома, і Віця некага штурхнуў, некага стукнуў, але яму папала больш. Толькі Додзік не біўся, а стаяў і гаварыў: „Прабачце, калі ласка. Прабачце, калі ласка...“ Юлька зараўла, Віця таксама не стрымаў слёз і ўцёк дадому.

І вось цяпер, няшчасны і пакрыўджаны, ён стаяў на балконе, пазіраў уніз на вуліцу, і машыны, і людзі — усё, што бачылі вочы, мільгала, плыло, залівалася, быццам ён глядзеў скрозь ільдзінку...

Калі Віця вярнуўся ў пакой, маці зноў кінулася мацаць яму лоб і пытаць: „Што з табой? Што?“

А бацька супакоіў яе:

— З хлопчыкамі, відаць, пабіўся. Што ж яшчэ?

Ён сядзеў у крэсле і чытаў газету.

— Хочаш, я табе заўтра нешта пакажу цікавае? — спытаў ён.

„Вельмі ўжо і цікавае, — недаверліва падумаў Віця. — У кіно возьме з сабою“.

— Заўтра мы паедзем у грыбы. На машыне дзядзькі Міколы.

Гэта было сапраўды нешта новае для Віці, бо дагэтуль ён ніколі не быў у лесе і не збіраў грыбоў.

Засынаў ён увечары доўга. Па-ранейшаму было прыкра на душы.

Разбудзіў Віцю званок. Увайшоў дзядзька Мікола.



Як хораша ў лесе!.. Фота М. Шаховіча.

Бацька фыркаў пад кранам, маці бегала па пакоях, збірала рэчы на дарогу, а пасля ўсе пакутліва доўга снедалі.

— Паехалі, мамачка, ну паехалі!

Віця сядзеў побач з дзядзькам Міколам, маці і бацька ззаду.

— Зараз я вас у грыбное царства завязу, — сказаў дзядзька Мікола.

І ён павярнуў крута ўлева. Машына шмыгнула ў шчыльную сцяну маладых елачак. Зашархала па шкле і дзвярах голле. Запахла смалой. З ельніка выехалі на светлую, вясёлую паляну. На бярозах, рыжых ствалах сосен трымцелі сонечныя зайчыкі, варушыліся галінкі, трапятала лісце, што сыпалася долу, ззяла белае павуцінне, усё шапацела.

— Грыб бачу! Грыб! — закрычаў Віця і па пояс высунуўся з акна.

Дзядзька Мікола спыніў машыну.

І сапраўды — тут было царства грыбоў! Віця выскачыў з машыны першы, забегаў, пачаў поўзаць на каленях, тыцкаць пальцам у пругкія шапкі баравікоў, падскакваць ад радасці і крычаў: „Гэта мой, мой!“

Дзядзька Мікола — з кошыкам у левай руцэ, з ножыкам у правай — кружыўся, як зачараваны, між бяроз аблітых сонечнымі праменнямі. Пад старой асінай, дзе зямля была ўсеяна апалым лісцем, нібы меднымі пятакамі, дзядзька Мікола спыніўся, паставіў кошык і пляснуў рукамі:

— Ах ты, дзіва маё!

Там з аднаго гнязда, не хаваючыся ад чужога вока, расло штук дваццаць баравікоў. Бурыя шапачкі іх мокра пабліскавалі ад расы.

Маці кудысьці адышла і маўчала. Можа, і ёй што цікавае надарылася.

Калі дзядзька Мікола паразрэзаў пад асінай грыбы, падаліся далей і натрапілі на ручай. Ён разліваўся шырока ў зарасніку чароту і рагозу, рассыпаўся на мноства струменьчыкаў і толькі каля алешыны, зусім яшчэ палетняму зялёнай, падмываючы яе карэнні, зноў збіраўся ў адзін паток. Алешыну раскалола навальніца. Віця нават засунуў руку ў расколіну — такая яна была вялікая. Тут жа на лужку раслі ў траве рыжыкі. Дзядзька Мікола поўзаў на каленях, збіраў рыжыкі і гаварыў, што такую неруш сустрэў у жыцці ўпершыню.

(Працяг на стар. 10)

Новыя вершы

Віктар Швед

## ВОСЕНЬ

З палёў сабрана ўжо калоссе,
Фруктаў паўнюткія сады,
Прыносіць залатая восень
Свае багатыя плады.

Засвоіў восені багацце
Упартай працаю народ.
Дастатак будзе ў нашай хаце,
Хопіць пладоў на цэлы год.

Каб штораз лепей нам жылося,
Каб заўжды поўны быў наш
стол,
Клапоціцца пра гэта восень,
Свой плён нясе да нашых сёл.

## БАБІНА ЛЕТА

Бела-бела ў полі чыстым.
Над зямлёю паднялося
Многа нітак серабрыстых,
Што напрала сёння восень.

Бабіна, як кажуць, лета
Так іскрыцца сівізною,
Ў бляску сонечнага свету
Плыве-кружыць над зямлёю.

Неўзабаве шоўку ніці
Восень зноўку згорне ў жмені,
Будзе для зімы-сястрыцы
Ткаць прыгожае адзенне.

## РАБІНА

Стройная рабіна
Пад акенцам Галі
Стаіць, як дзяўчына,
У чырвоных каралях.

Зімні холад колкі
Змарозіць лісточкі,
Астануцца толькі
Караляў вяночкі.

Станецца зімою
Рабіна кармушкай,
Будуць тут гурбою
Ласавацца птушкі.

## ЯК ЗАВЕШСЯ

Запыталіся ля хаты
Малалетку-гультая:
— Як завешся?
— Так, як тата,
— А як тата?
— Так, як я.

— Заклікаюць як да хлеба,
Да абеду, да стала?
— Клікаць да яды не трэба,
Прыбягу сам і з сяла.

## АСТАЛІСЯ ДВОЙКІ Ў КЛАСЕ

— Цяжкі ў нас з табою лёс,
Новая штодзень крамола.
Ты, напэўна, зноў прынёс
Сёння двоек шмат са школы?

— Мама, не рабі вайны, —
Адказаў на гэта Вася. —
Асталіся ўсе яны
З дзённікам маім у класе.

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

Падручнік беларускай мовы для пятага класа
Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук

## ГАСПАДАР

Калі пяцікласнікі выбіралі гаспадара класа, Федзя прапанаваў:

— Валерыка Трусевіча. Ён такі выдумшчык — з ім не прападзеш!

Федзя добра ведаў, што Валерык лянуецца, што ён, здараецца, атрымлівае і дрэнныя адзнакі. Але гэта нават лепш — менш будзе прыдзірацца. Усё ж свой хлопец. Праўда, Федзя не быў цвёрда ўпэўнены, што дзеці падтрымаюць яго, і хутчэй сказаў гэта на ўсялякі выпадак. А ну ж сапраўды выберуць — тады ўжо, напэўна, Валерык не забудзе яго.

— Правільна!..

— Валерыка выберам! — пачулася яшчэ некалькі галасоў.

Крычалі пераважна хлопчыкі. Дзяўчынкі адмоўчваліся. Яны, відаць, усё яшчэ не маглі зразумець, што робіцца: да гэтага, як правіла, гаспадарамі класа выбіралі толькі вучняў з выдатнымі ацэнкамі. А тут...

— Ну, што ж, няхай будзе Валерык, — згадзілася выхавацельніца. — Валерык і праўда вялікі завадатар. Будзем галасаваць.

Валерыка выбралі аднагалосна.

Сам Валерык не чакаў гэтага. Ён збянтэжыўся і нават не ведаў, што яму рабіць. Нарэшце ўстаў і, заікаючыся ад хвалявання, сказаў:

— Дзякую... усім дзякую, што мяне выбралі, даручылі такую адказную справу. У мяне, вы самі ведаеце, з дыктанта двойка. Але я, значыць, кажу, выпраўлю яе. І яшчэ трэба, каб двоек у класе зусім не было.

Зноў пачуліся галасы:

— Правільна!..

— Падказванню і шпаргалкам аб'явіць вайну!

— Прагаласаваць і запісаць усё гэта!..

Цяпер крычалі больш дзяўчынкі.

На той жа дзень новы гаспадар не прыйшоў гуляць у футбол, чаго раней ніколі не здаралася. Каманда, у якой ён быў крайнім нападаючым, а Федзя — капітанам, прайграла.

Назаўтра Федзя ішоў у школу ў дрэнным настроі. У дадатак да паражэння на футбольным полі, ён не зрабіў хатняга задання па арыфметыцы.

Каля школы ён убачыў Валерыка з нейкім першакласнікам. Малы, пэўна, улез у лужыну: рукі яго былі ў гразі, ён хныкаў, а Валерык абціраў яму паліто і суцяшаў:

— Не плач. Бачыш, чыста ўжо...

— Вітанне! — прыпыняючыся каля яго і прымаючы незалежны выгляд, сказаў Федзя. — Што гэта ў цябе там здарылася ўчора? Чаму гуляць не прыйшоў? Мы ж прайгралі...

— Так сабе, — сказаў Валерык, — не мог. Граматыку паўтараў...

Да званка заставалася зусім мала часу. Федзя пабег у клас: трэба было яшчэ спісаць задачы.

Папрасіўшы ў суседа з лаўкі сшытак, ён стаў перапісваць першы прыклад. Федзя так спяшаўся, што нават не ўбачыў, як падышоў Валерык. Толькі тады, калі Валерык адабраў сшытак і аддаў гаспадару, здзіўлена падняў галаву.

— Трэба было дома самому рашаць, — сказаў Валерык.

— А табе што? — загарэўся Федзя. — Не твой жа. Сам ты колькі спісваў?! Начальнік знайшоўся!..

Са злосці Федзя гаварыў яшчэ нешта, але якраз увайшла настаўніца і яму прыйшлося сесці на месца.

Настаўніца хадзіла ад лаўкі да лаўкі і правярала сшыткі. Федзя пачаў корпацца ў торбе — рабіў выгляд, што шукае сшытак. У яго паўстаў новы план: калі настаўніца падыдзе, ён скажа, што сшытак забыўся ў хаце. Але тут ён глянуў у бок Валерыка і, калі настаўніца падышла да яго, ён, чырванеючы, прызнаўся да ўсяго. Гэта быў першы выпадак, калі Федзя сказаў праўду.

**Працяг у наступным нумары**

(Працяг са стар. 9)

## СУСТРЭЧА З ЦУДАМ

Праз нейкі час да іх падышла маці. Кошык яе быў цяжкі, маці несла яго, выгнуўшыся набок і адставіўшы левую руку.

— Зірніце, ну зірніце! Поўна лісічак, — паставіла яна кошык. — Хто сказаў, што я не грыбнік?

— Грыбнік, мамачка, грыбнік, — паспешліва згадзіўся Віця. Пахваліў яе і дзядзька Мікола.

— Цудоўныя лісічкі, — сказаў ён.

Дзядзька Мікола, а за ім і Віця разуліся, закасалі штаны і палезлі ў ваду па чорныя катахі рагозу. Выламалі па аднаму. Вада была халодная, і Віця нават без загаду маці сам выскачыў на бераг і хуценька абуўся.

Потым яны ўтраіх вярнуліся да машыны, чакалі бацьку, збіралі і елі брусніцы. У лесе было бязветрана і ціха. Толькі на самай верхавіне елкі звонка і радасна заліваўся дрозд.

Віця гукнуў бацьку, і той неўзабаве вярнуўся да машыны.

Ужо можна было б і дадому вяртацца, але ў лесе было так хораша, што ніхто першы не хацеў гаварыць пра гэта. Толькі пад самы вечар выехалі на шашу.

Віця ўпершыню за ўвесь дзень успомніў пра ўчарашнія непрыемнасці, пра сварку з Пецем, Додзікам, Юлькай, і яму зрабілася прыкра. Віцю захацелася, каб учарашні дзень вярнуўся на тыя дзесяць хвілін, калі ўсё здарылася. Усё б зрабіў ён па-іншаму.

Віця ўздыхнуў цяжка, з раскаяннем і вырашыў, што сёння ж усё паправіць: Пецю аддасць катах рагозу, Юльку пачастуе брусніцамі, якіх ён назбіраў поўную кішэню. А Додзіку скажа: „Прабач, калі ласка".

— Мама, я харошы? — павярнуўся ён назад.

— Харошы.

— Мамачка мілая! — Віця перагнуўся цераз сядзенне, абхапіў маці за шыю і пацалаваў. Потым падцягнуўся да бацькавай галавы і цмокнуў у макаўку. — Дзякуй вам.

Бацька расплюшчыў вочы.

— За што?

Віця маўчаў, бо яму прыйшлося б расказваць, чаму ён сёння такі і завошта дзякуе. Ён сёння шчаслівы чалавек, бо сустрэўся з цудам. Ён павінен быў расказаць пра баравічкоў, што хаваліся пад лісцікамі, пра шырокі празрысты ручай, белыя ствалы бяроз з сонечнымі трапяткімі зайчыкамі на іх, пра песню дразда, пра ўсё-ўсё, з чым ён сустрэўся сёння ўпершыню ў жыцці...

Ён раскажа пра гэта Пецю, Юльцы, Додзіку, калі прыедзе дадому.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 220036 г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 98, кв. 13. Света Размысловіч, 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 98, кв. 13. Ала Несцярэнка, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 72. Света Кузняцова, 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв. 34. Юля Кучук, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв. 53. Наташа Шымановіч, 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 84, к.2, кв. 1. Оля Гайдукевіч, 4 клас.

* * *

БССР, 220035 г. Мінск-35, вул. Заслаўская, 12, кв. 143. Каця Міхейчык, 5 клас.

* * *

БССР, 220073, г. Мінск-73, пр. Пушкіна, 56, кв. 53. Наташа Кучынская, 5 клас.

* * *

БССР, 220073, г. Мінск-73, вул. Альшэўскага, 25, кв. 56. Галіна Бернада, 5 клас.

* * *

БССР, 220073, г. Мінск-73, пр. Пушкіна, 56, кв. 80. Іна Папова, 5 клас.

## АДГАДАНКА



Размалюй птушачак каляровымі алоўкамі. Якія гэта птушачкі?



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul Wesołowskiego 1

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё ў суботу 11 кастрычніка а 18-й гадзіне.

### ЧАЧОТКА

Спявае Леанід Барткевіч

**Спарадзіла чачотачка семера дачок,**
**Спарадзіла, невялічка, семера малых:**
**І Аўгіню, і Аксіню, і Кацюшу, і Насцюху,**
**І Марыну, і Грыпіну, сёмую Хімку.**
**Спарадзіўшы і ўзрасціўшы, замуж аддала,**
**Бадай тая чачотачка здарова была.**
**А Аўгіню за Мірона, а Аксіню за Сапрона**
**А Кацюшу за Дзяміда, а Насцюху за Спірыда,**
**Радзівону — Марыну, Харытону — Грыпіну,**
**Хімку за Кузьму.**
**Як пачала чачотачка пасагі даваць,**
**Як пачала, невялічка, ды ўсіх абдараць,**
**А Аўгіні паясок, а Аксінні кажушок,**
**А Кацюсі пялёначкі, а Насцюсі суконачкі,**
**А Марыне — чаравічкі, Агрыпіне — рукавічкі,**
**Хімцы істужкі.**
**Былі дзеўкі на вяселлі і малодзіцы,**
**Былі старэнькія бабы і ўдовіцы —**
**Маня, Таня, і Гануся, і Хадора, і Бартуся,**
**І суседкі ўсе.**
**Нанімала чачотачка скочну музыку,**
**Нанімала, невялічка, капэлу ўсю.**
**Верабейка на скрыпейцы, салавейка на прыпеўцы,**
**А сарокі на прыскокі, а вароны на далоні,**
**Чорны галкі ў цымбалкі, дробны пташкі ў свісташкі, —**
**Люба слухаць, як зайгралі музыку сваю.**









— Зноў вылазка без дазволу!

### ЖАДАННЕ

— Я хачу, каб у мяне было так многа грошай, што я змог бы купіць самалёт! — гаворыць задрыпанец.

— Ды што ты будзеш рабіць з самалётам?

— А нічога! Мне толькі хочацца, каб у мяне было столькі грошай.

### У СУДЗЕ

— Вы кралі сырод белага дня?

— Так, пане суддзя, вечарам я баюся выходзіць на вуліцу...

### МАЎЧАННЕ

Адзін сказаў:

— Маўчанне — золата.

Другі сказаў:

— Маўчанне — знак згоды.

— А трэці спытаў:

— А як мы характарызуем змоўчванне?

### СКЛЕРОЗ

Дзядуля ўваходзіць у аўтобус і адразу пытае кандуктара:

— Едзеце ў Задрыпанку?

— Не, зусім у другі бок.

Аўтобус рушыў, але пасажыр чамусьці застаўся ў ім, зручна ўмасціўшыся на сядзенні.

— Грамадзянін, мы едзем зусім у іншы бок, — яшчэ раз паўтарыў кандуктар.

— Вось-вось, — усміхнуўся стары, — мне туды і трэба. Пракляты склероз: забыў, як завецца тое сяло, памятаю толькі, што ў другі бок ад Задрыпанкі.

### ЗАМУЖЖА

— Калі я выходзіла замуж, у майго мужа былі пэўныя недахопы.

— А з тых пор?

— З тых пор іх стала куды больш...

**Падхалім кідаў словы на вецер толькі тады, калі ведаў, што ён дзьме ў бок начальства.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

На калгасным сходзе адзін з лодараў папрасіў слова:

— Я ўношу прапанову пяцігодку выканаць за чатыры гады! — сказаў ён.

— Ды з табою мы яе і за шэсць не выканаем! — адказаў старшыня.

— А я не пра сябе, гэта я прапаную вам... — сказаў лодар і сеў на сваё месца.

*

Дзікі Захад. Бойка ў салуне. Раздаецца выстрал. Бармен хапае за каўнер п'янага каўбоя.

— Нягоднік! Гэта ты застрэліў піяніста?

— Добра, добра. Прыпішы яго да майго рахунку.

*

У маленькай вясковай гасцініцы таблічка над ложкам: „Месца цудоўнае, цішыня абсалютная, паветра свежае. Калі вы не можаце заснуць, вінаваце ў гэтым ваша нячыстае сумленне".

### З „Весніка Задрыпоніі"

#### НОВАЕ Ў ПТУШКАГАДОЎЛІ

Арыгінальную тэхналогію гадавання птушак распрацавала птушкафабрыка ў Рабкаве. Тут вывелі пароду лятаючых курэй, якія восенню робяць пералёт у цёплыя краіны, а вясной вяртаюцца на родную фабрыку. Гэта дазваляе птушкафабрыцы не запасацца кормам на зіму.

#### ВЫСАКАРОДНЫ ЎЧЫНАК

Калі Дывановіч пераканаўся, што ў яго не жонка, а скарб, ён вырашыў здаць яе дзяржаве.



**Ён ад нявесты пісьмо атрымаў.**







**Без слоў.**






### ІМКНЕННІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

17-гадовая канадка Сэндзі Пенок, якая жыве ў горадзе Эдмантан (правінцыя Альберта), аб'явіла раптам, што за 10 дзён бярэцца прапаўзці (не праехаць і не прайсці пешкі) ад свайго роднага горада да горада Калгары. Адлегласць складае 200 кіламетраў, гэта значыць, што паўзком яна будзе пераадольваць па 20 кіламетраў у дзень. Канечне, кожнаму было зразумець, што Сэндзі Пенок ставіла перад сабою зусім нерэальную задачу, бо, каб выканаць яе, трэба поўзаць з хуткасцю самай рухавай змяі. Але ніхто не пасмяяўся з дзяўчыны, калі яна ўжо на трэцім кіламетры выдыхнулася: чалавек рашыўся на самавыяўленне — і не яго віна ў тым, што не хапіла сіл.

Толькі паспачувалі эксцэнтрычныя чытачы і амерыканцу Піту Сквайрсу, які ў мінулым годзе быў чэмпіёнам бегу ўверх па лесвіцы небаскроба. У гэтым годзе ён спатыкнуўся і зваліўся на 86-ым паверсе небаскроба „Эмпайр стэйт білдзінг". А больш малодшага Джыма Окса павіншавалі з лепшай перамогай у гэтым незвычайным забегу: ён адолеў і апошні 86-ы паверх. за 12 мінут.




**Адны адкрываюць новыя дарогі, іншыя пачынаюць рэгуляваць рух па іх.**